ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 16 (2314) 22 красавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

*РАЗЛАД НЕ ПРЫНЯСЕ ЎСТОЙЛІВАСЦІ*

## "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!"–

### ШЧЫРА ЗЫЧАЦЬ У СВАІХ ЛІСТАХ НА АДРАС СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. ШУШКЕВІЧА ЛЮДЗІ З-ЗА МЯЖЫ.

Каля тысячы лістоў кожны месяц атрымлівае Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч. Нямала сярод іх і лістоў з блізкага і далёкага замежжа. Пішуць палітыкі і бізнесмены, нашы суайчыннікі, якіх лёс раскідаў па ўсіх неабдымных абшарах зямлі, і проста замежныя грамадзяне, што выказваюць цікавасць да нашай Айчыны. Аб розным гэтыя лісты — з падтрымкай нашай кволай дэмакратыі і пажаданнем С.Шушкевічу не збочваць з узятага курсу, з прапановай супрацоўнічаць і наладжваць больш цесныя кантакты, з жаданнем як мага больш даведацца аб нашай сінявокай Беларусі. Нямала лістоў і іншага плана — у іх жаданне знайсці тут сабе сяброў альбо атрымаць асабіста ад лідэра беларускай дзяржавы шчырае пажаданне і здымак з уласным подпісам. Але ўся пошта сведчыць, бадай, аб адным і тым жа: палітыкі, суайчыннікі, замежныя грамадзяне праяўляюць да нас цікавасць, заклапочаны нашым лёсам і зычаць на нялёгкім шляху нацыянальнага адраджэння поспехаў.

**"Адчуваю сябе абавязаным выказаць радасць, што Беларусь уваскрэсла, стала суверэннай, незалежнай і вольнай. Марылі аб гэтым стагоддзямі найлепшыя розумы, сэрцы і душы беларусаў. Беларусь моцна звязана сваёй гісторыяй з Польшчай, таму яна наша сястра, якой мы павінны аказаць глыбокую павагу, дапамогу на шляху ў Еўропу і на Захад. Мы падтрымліваем вашу незалежнасць, эканоміку, культуру, мову і ваш змучаны дух, які перажывае адраджэнне. Адраджэнне Беларусі мяжуе з цудам, у якое многія не верылі. Няхай Бог падтрымлівае вас у будаўніцтве вялікай дзяржавы, багатай эканомікі і прагрэсіўнай культуры"**, — вось такі эмацыянальны, нераўнадушны, прасякнуты — гэтага нельга не заўважыць — павагай да новай і вольнай Беларусі ліст даслаў С.Шушкевічу прафесар Чэслаў Бартнік з Польшчы.

Падобнае пісьмо прыйшло і з Нарвегіі ад спадара Стэрла Коена, які працуе начальнікам аддзела Міністэрства адукацыі:

**"Як гісторык, яназіраю з вялікай радасцю і цікавасцю за ростам вольных і незалежных нацый на тэрыторыі былога СССР. І лічу, што гэта цудоўна — запрашаць новых членаў у еўрапейскую сям'ю. Як і ваша краіна, Нарвегія таксама змагалася супраць нацысцкага тэрору ў час другой сусветнай вайны. І нашы сэрцы напоўнены павагай і сумам ад вялікіх ахвяраў вашага народа дзеля перамогі над фашызмам.**

**Я пішу гэты ліст у знак салідарнасці простага грамадзяніна з Нарвегіі з Беларуссю і жадаю вашаму народу дабра, працвітання і дабрабыту ў будучыні".**

Такія ж шчырыя словы і пажаданні дайшлі ад многіх людзей свету:

**"Жадаем вам поспехаў у адраджэнні нарэшце вольнай Беларусі!"** — Ганна і Казімеж Гратоўскія з Польшчы.

**"Спадзяюся, што час, які вы, шаноўны спадар Шушкевіч, будзеце кіраўніком Беларусі, стане шчаслівым і паспяховым для вас, вашай нацыі"** — Д.Купер з Вялікабрытаніі.

Многія замежныя грамадзяне, вітаючы нашу вольнасць, зычачы на гэтым цяжкім шляху плёну, шчыра спадзяюцца на ўмацаванне сувязей паміж нашымі краінамі, усталяванне добрасуседскіх адносін.

**"Я малады адвакат і на працягу многіх гадоў цікаўлюся вашай краінай. Я рад, што паміж Германіяй і Беларуссю зараз добрыя адносіны. Спадзяюся, што яны будуць мацавацца і надалей, што мы лепш адкрыемся адзін аднаму і будзем ездзіць адзін да аднаго ў госці"**, — выказвае пажаданне Петэр Шліхтынг з Франкфурта-на-Майне. О.Андэрсен з Нарвегіі таксама вельмі спадзяецца, што сувязі паміж нашымі дзвюма краінамі будуць мацнець. На жаль, шкадуе ён, у Нарвегіі яшчэ мала ведаюць аб нашай маладой дэмакратычнай рэспубліцы. Але верыць, што гэта справа выправіцца, і гатовы ўнесці свой уклад дзеля сяброўства.

Карэн Франк, настаўніца, пісьменніца, спявачка, філосаф і больш за ўсё грамадзянка са Злучаных Штатаў Амерыкі, так яна падпісала свой ліст, зацікаўлена ў міры ва ўсім свеце.

**"Мае дзядуля і бабуля, —** напісала яна, **— выхадцы з Расіі і Польшчы, і я ведаю, што ва ўсходніх еўрапейцаў у аснове многа каштоўнага. Выкарыстоўвайце гэтыя добрыя якасці пры закладцы краевугольнага каменя сваёй новай дэмакратыі. Аўрам Лінкольн сказаў, што "разлад паміж сваімі не дасць устойлівасці".**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## СВЕТЛАЕ СВЯТА ВЯЛІКДЗЕНЬ



**Вялікдзень — самае светлае свята праваслаўных хрысціян. 18 і 19 красавіка сёлета яго адзначалі ва ўсіх цэрквах і саборах нашай рэспублікі.**

**Напярэдадні свята да веруючых звярнуўся Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі ФІЛАРЭТ, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі з Велікодным пасланнем** **(яно змешчана на 4-й стар.).**

**НА ЗДЫМКУ:** урачыстая літургія ў Свята-Духавым кафедральным саборы.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

### ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ"! ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

**З 22 сакавіка пачалася кампанія па падпісцы на газеты і часопісы на другое паўгоддзе 1993 года. Не марудзьце! Кампанія будзе доўжыцца ўсяго два месяцы. Спяшайцеся аформіць падпіску загадзя. Гэта адзіны спосаб пазбегнуць недарэчнасцей і памылак, якія мелі месца ў першым паўгоддзі, і застацца разам з намі.**

**Усе даныя аб "Голасе Радзімы" ёсць, вы іх знойдзеце і ў рэспубліканскім, і ў каталогу СНД. Кожны дзень вашага прамаруджвання — лішні крок да магчымасці страціць сувязь з "Голасам Радзімы", адзінай рэспубліканскай газетай, якая жыве і працуе як для замежных суайчыннікаў, так і для нашых суграмадзян.**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА

### ЧАКАЕМ ВЫСОКАГА ГОСЦЯ

**Адбылася сустрэча Пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ААН Генадзя Бураўкіна з генеральным сакратаром ААН Бутрасам Галі. У час гутаркі, што праходзіла ў атмасферы добразычлівасці і ўзаемнай павагі, быў закрануты шэраг важных пытанняў.**

**Тычыліся яны перш за ўсё праблемы ядзернага раззбраення, катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, вылучэння кандыдатуры Рэспублікі Беларусь у склад Савета Бяспекі ААН, а таксама вызначэння ўзносаў нашай краіны ў бюджэт Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.**

**У заключэнне гутаркі Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН пацвердзіў запрашэнне генеральнаму сакратару ААН наведаць рэспубліку ў зручны для яго час. Бутрас Галі паведаміў, што спадзяецца скарыстаць яго да канца гэтага года.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### КРЫВОЕ ЛЮСТЭРКА СТАТЫСТЫКІ

**Паводле паведамлення Статыстычнага ўпраўлення, у студзені гэтага года ў Беларусі назіраўся рост прамысловай вытворчасці. "Але на справе аказваецца, што гэтыя лічбы ні аб чым не гавораць, — заявіў у інтэрв'ю агенцтву "Інтэрфакс" Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч, — яны былі атрыманы на падставе прыдуманых вытворцамі цэн і аб'ёмаў. Значная частка прадукцыі не знайшла збыту, і, калі атрымліваю баланс па банку, становіцца ясна, што ў рэспубліцы адбываецца моцны спад вытворчасці".**

**Узнікае пытанне: каго падманвае Статыстычнае ўпраўленне, што знаходзіцца ў распараджэнні ўрада!**

СУСЕДЗІ

### ДАРОГА ЗА МЯЖУ

**Як паведамілі ва ўкраінскім пасольстве, для ўезду на Украіну грамадзянам Беларусі ніякая віза не патрабуецца. Дзейнічае падпісанае 17 снежня мінулага года ў Кіеве міждзяржаўнае пагадненне "Аб бязвізавым уездзе і выездзе грамадзян Украіны ў Рэспубліку Беларусь і грамадзян Беларусі на Украіну".**

**А вось да балтыйскіх суседзяў цяпер трапіць няпроста. Латвія ўвяла візавы рэжым. У Беларусі створаны Полацкі пагранатрад. У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў рэспублікі, на атрад ускладзена задача абароны суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі, аховы яе эканамічных інтарэсаў, праву і свабод грамадзян на мяжы з Латвіяй і Літвой. Большасць дарог, што звязваюць нашу рэспубліку з Прыбалтыкай, цяпер будзе закрыта. Трапіць за мяжу можна будзе толькі праз асобныя пункты, адкрытыя для руху. Пропуск за мяжу будзе ажыццяўляцца па дзеючых пашпартах.**

*"Асобна хачу закрануць праблему нашых сувязей з суайчыннікамі за мяжой. Сёння амаль два з паловай мільёны беларусаў раскідана па свеце, каля 70 тысяч з іх у Злучаных Штатах, 10 тысяч у Аўстраліі, тысячы нашых суайчыннікаў у Літве, Польшчы, Расіі, Казахстане, на Украіне, у Канадзе, Аргенціне. Там існуюць беларускія суполкі, выходзіць на нашай мове перыёдыка.*

*У нас заўсёды была зацікаўленасць адзін да аднаго. Увагу брацкім сувязям удзяляюць згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", таварыства "Радзіма", Таварыства сувязі з замежнымі краінамі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Скарыны, Таварыства беларускай мовы, Фонд культуры і іншыя.*

*Мэтазгодна і далей праводзіць палітыку падтрымкі за мяжой беларусаў праз адпаведныя дзяржаўныя органы гэтых краін, больш увагі ўдзяляць стану беларусаў за мяжой.*

*У снежні мінулага года ў Мінску адбыўся першы сход беларусаў блізкага замежжа. У адной зале сабраліся дзеці аднаго кораня і аднадушна зрабілі крок насустрач. Упершыню Бацькаўшчына выказала патрэбу ў паслугах сваіх сыноў і дачок па-за межамі, упершыню ішла гаворка аб дзяржаўнай праграме наладжвання кантактаў з беларускай дыяспарай.*

*Наладжваюцца ў нас і іншыя сувязі з беларускім замежжам. Важнай падзеяй павінен стаць Усебеларускі форум, Сусветны кангрэс беларусаў, што мае адбыцца ў нашай рэспубліцы ў ліпені.*

*Імкненне насустрач не можа не радаваць. У гэтай сувязі нельга абысці і пытанне грамадзянства. Многія з беларусаў блізкага замежжа выказваюцца за права мець двайное грамадзянства. Наш Закон аб грамадзянстве прадугледжвае магчымасць існавання двайнога грамадзянства на падставе міжнародных дагавораў. Але ёсць краіны, якія ў сваю чаргу ў сваім заканадаўстве прадугледзелі права набыцця двайнога грамадзянства (напрыклад, Канада). Выбраць правільнае рашэнне — справа Вярхоўнага Савета".*

*(З даклада Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С.ШУШКЕВІЧА на нечарговай 11-ій сесіі Вярхоўнага Савета).*

НАМЕРЫ АМЕРЫКАНСКАГА БЕЛАРУСА

### ФОНД ПЯТРОЎСКАГА

**"Беларускі адукацыйны фонд Пятроўскага" — так называецца новая грамадская арганізацыя, заснаваная пасля праведзеных у пасольстве Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне перагавораў з перакладчыкам, філосафам Янам Пятроўскім, беларусам па паходжанню, які пражывае ў ЗША. (Гл. "Г. Р" N 9, 1993 г.).**

**Дзейнасць новага фонду будзе ажыццяўляцца ў Рэспубліцы Беларусь. Ян Пятроўскі мае намер перадаць у яго ўсе наяўныя сродкі свайго цяперашняга фонду ("Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд"). Яму ж ён збіраецца завяшчаць пасля сваёй смерці ўсю асабістую маёмасць, уключаючы сродкі ад продажу нерухомасці.**

**Ян Пятроўскі мае намер таксама перадаць рэспубліцы сваю бібліятэку і архіў.**

ВЫРАТАВАНЫЯ СКАРБЫ



**Вяртаюцца цэрквам і храмам страчаныя імі з-за розных прычын прадметы культу. Брэсцкія мытнікі і пагранічнікі ўжо многа гадоў вядуць барацьбу з кантрабандыстамі, якія спрабуюць з дапамогай розных хітрыкаў вывезці на Захад старадаўнія іконы, унікальныя абрадавыя прадметы. Частка выратаваных скарбаў перадаецца Брэсцкаму абласному краязнаўчаму музею, а потым — цэрквам і храмам рэгіёна. Толькі за апошні час такім чынам вернута больш тысячы ікон.**

**НА ЗДЫМКУ: чарговую партыю ікон прымае ад супрацоўнікаў музея настаяцель Свята-Сямёнаўскага сабора айцец ЯЎГЕНІЙ.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

З ПРАВЕДЗЕНАГА Інстытутам сацыялогіі апытання вынікае, што 51,1 працэнта грамадзян Беларусі лічаць сябе беднымі і толькі 0,7 працэнта сцвярджаюць, што яны багатыя. Жабракамі сябе назвалі 28 працэнтаў апытаных.

З 1500 не ўладкаваных на працу ў Смаргоні 500 чалавек атрымалі статус беспрацоўнага. А ў горадзе на прадпрыемствах усяго 35 свабодных рабочых месцаў. Таму тут забаронены прыём на работу людзей з-за межаў Беларусі.

ЗНОЎ "падскочылі" цэны на харчовыя тавары. З пачатку красавіка ў 3—4 разы даражэй каштуюць хлеб, тварог, смятана, амаль у 2 разы падаражэла масла. Дзяржаўныя рознічныя цэны на хлеб і малако заставаліся нязменнымі толькі 7 месяцаў.

БЕЛАРУСЬ павінна быць незалежнай, бяз'ядзернай і нейтральнай дзяржавай. Такое рашэнне прыняла пашыраная рада Саюза пісьменнікаў рэспублікі. У звароце да Вярхоўнага Савета і ўрада, да ўсіх грамадзян Беларусі пісьменнікі выказаліся супраць уваходжання рэспублікі ў які-небудзь ваенны саюз.

У БРЭСЦЕ можна купіць любую зброю (на чорным рынку, вядома). За 250—300 долараў — пісталет Макарава, за 400—500 долараў — аўтамат Калашнікава. Адзін патрон каштуе 10 рублёў. Былі б грошы!

З ЦАРКВЫ ў Бярозавічах Пінскага раёна "паляўнічыя" за каляровым металам знялі і вывезлі ноччу звон. А на ўчастку паміж вёскамі Сітніца і Сінкевічы — 4 кіламетры меднага дроту з тэлефонных слупоў. Як звычайна, злачынцы знікаюць, бы тая здань, і застаюцца непакаранымі.

НАДЗВЫЧАЙНЫ і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулэк перадала нашаму Міністэрству культуры архітэктурныя планы дома Тадэвуша Касцюшкі. Да гэтага яны ўвесь час захоўваліся ў Варшаўскай політэхнічнай акадэміі.

ПА ЗАПРАШЭННЮ НАТА група беларускіх журналістаў тры дні гасціла ў штаб-кватэры Паўночна-атлантычнага саюза, знаёмілася з яго работай, з дзейнасцю міжпарламенцкай асамблеі краін, якія ўваходзяць у НАТА.

НА ТЭРЫТОРЫІ Брэсцкай вобласці эколагі ўзялі на ўлік 180 месцаў, якія населены жывёламі і птушкамі, а таксама каля 50 раслін, занесеных у Чырвоную кнігу.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

**Новыя экалагічна бяспечныя азотныя ўгнаенні з біялагічна актыўнымі дабаўкамі распрацаваны беларускімі вучонымі. Гэта плён сумеснай працы калектываў некалькіх навуковых інстытутаў і вытворчасцей. Сярод навінак — карбамід з дабаўкай адходаў брадзільнай вытворчасці і карбамід з гуматутрымліваючымі дабаўкамі. Абодва паспяхова прайшлі апрабацыю ў гаспадарках рэспублікі і атрымалі добры водгук у спецыялістаў-аграрнікаў. Прымяненне гэтых прэпаратаў дазваляе значна павысіць ураджайнасць, у прыватнасці, такіх культур, як азімае жыта, авёс, ячмень, бульба. Пры падкормцы, напрыклад, ячменю карбамідам з дабаўкай адходаў брадзільнай вытворчасці ўраджайнасць культуры павышаецца на 7—15 працэнтаў.**

**У гэтым годзе сяльчанам прапануецца яшчэ адзін прэпарат — сульфат амонія з ахоўным пакрыццём. Выкарыстанне яго змяншае небяспечнасць забруджвання грунтавых вод, значна зніжае накапленне ў раслінах нітратаў.**



**У новых угнаенняў ёсць яшчэ адна асаблівасць — падоўжаны тэрмін дзеяння, а гэта значыць, што выключаюцца падкормкі раслін у працэсе іх росту. Зберагаюцца паліва, тэхніка, змяншаюцца затраты на вырошчванне сельскагаспадарчых культур.**

**Новыя віды ўгнаенняў кіраўнікі гаспадарак могуць заказаць у гродзенскім вытворчым аб'яднанні "Азот". Па кошту карбамід з дабаўкамі адходаў брадзільнай вытворчасці знаходзіцца на ўзроўні стандартнага, а з гуматамі — на 3—5 працэнтаў даражэй. Неўзабаве на прадпрыемстве пачнецца і прамысловая вытворчасць сульфату амонію з ахоўным пакрыццём. Ужо ў маі спажыўцы змогуць набыць першыя партыі такіх угнаенняў.**

**НА ЗДЫМКУ: распрацоўшчыкі новых угнаенняў — вядучы навуковы супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі Галіна ПІРАГОЎСКАЯ і навуковы супрацоўнік інстытута Святлана КУЛЯШОВА.**

# "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!" —

## ШЧЫРА ЗЫЧАЦЬ У СВАІХ ЛІСТАХ НА АДРАС СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. ШУШКЕВІЧА ЛЮДЗІ З-ЗА МЯЖЫ.

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

На імя Старшыні Вярхоўнага Савета прыходзіць нямала лістоў, дзе выказваецца жаданне як мага больш даведацца аб Беларусі, знайсці тут сабе сяброў.

**"Якая яна, ваша Беларусь! —** пытаецца Ралфі (прозвішча неразборліва) з Нью-Йорка. — **Я цікаўлюся, бо хачу больш даведацца аб мэтах вашай дзяржавы, якія ў вас мова, культура і ўсё іншае".** У пісьме просьба даслаць брашуру альбо праспект, якія б далі ўяўленне аб беларускім краі.

Цікава, што многія карэспандэнты добра дасведчаны аб нашай гісторыі, геаграфіі і культуры.

Напрыклад, Кенджы Мазда з далёкай Японіі даслаў С.Шушкевічу вельмі цікавае пісьмо:

**"Я вучыўся ва універсітэце на геаграфічным факультэце і цікавіўся Беларуссю. Ведаю, які ў вас клімат, ведаю, што няма гор, затое шмат балот. У вас добра развітая аўтамабільная прамысловасць. Хачу даведацца аб Беларусі больш — аб палітыцы, эканоміцы, традыцыях. Я думаю, што Беларусь прыгожая і прывабная. Вельмі хацеў бы пабываць у вас, каб убачыць усё сваімі вачыма".**

Змястоўнае пісьмо прыляцела ад нашай суайчынніцы, амерыканскай беларускі Веры Рамук, што пражывае зараз у Чыкага. Жанчына расказала аб сваім нялёгкім лёсе:

**"Нарадзілася ў Заходняй Беларусі, малой дзяўчынкай бачыла далучэнне яе да БССР ды нямецкую акупацыю і вайну на нашай зямельцы. Калі мне было 12 гадоў, бацькі вырашылі пусціцца ў свет шырокі, каб шукаць праўду і справядлівасць. Словы, сказаныя на развітанне маім дзядзькам, запомніліся на ўсё жыццё: "Даражэнькія, хай Усемагутны сцеражэ вас ад усялякай небяспекі. Дзе б вы ні былі, гаварыце праўду аб здзеках, учыненых над нашым народам..."**

**Думка аб помачы беларускаму народу не пакідала мяне ніколі. І па сенняшні дзень цікаўлюся гісторыяй і культурай Беларусі. Навучылася чытаць і пісаць двума беларускімі альфабэтамі — кірыліцай і лацінкай.**

**З года ў год ладзім выстаўкі, каб папулярызаваць Беларусь, нясём праўду аб нашым народзе. Мы здабылі мноства прыхільнікаў для беларускай справы сярод амерыканскіх афіцыйных дзейнікаў і прыватных асобаў.**

**У мяне даўно ўжо снуецца думка, каб Беларусь дала чэсць і пашану ўсім тым, хто гадамі падтрымліваў ідэю яе незалежнасці, для каго свабода і вольнасць Беларусі ляжала на сэрцы.**

**Жыве Беларусь!"**

Ведаеце, аб чым перш за ўсё думаецца пасля такіх лістоў? Людзі, апынуўшыся ў далёкай Амерыцы, здолелі зберагчы і сваю душу, і сваё замілаванне да таго куточка, дзе нарадзіліся, больш таго — добра размаўляюць і пішуць на матчынай мове, прапагандуюць беларускую культуру. І робяць гэта шчыра, з поўным усведамленнем сваёй адказнасці за выжыванне роднага слова. А што ж мы? Грэбуем гэтай самай мовай, адракаемся ад яе з самых высокіх трыбун, выступаючы за так званае двухмоўе. Прабачце, але хто ж у такім выпадку больш сапраўдны і адданы справе беларускасці сын? Нізкі паклон і вялікі дзякуй тым, у каго душа аб ёй баліць і ў далёкай — а цяпер ужо і блізкай, як цудоўна спявае на беларускай мове Данчык — Амерыцы.

Дарэчы, многія беларускія эмігранты наведваюцца на Бацькаўшчыну, вяртаюцца да родных гоняў, каб паглядзець на любыя мясціны, знайсці сваякоў.

**"Шаноўны спадар Шушкевіч! Продкі майго бацькі былі з Беларусі, жылі каля Ліды. Прозвішча іх Клімковы. Мой дзед Лука Андрэевіч і яго брат Сяргей Андрэевіч прыехалі ў ЗША на пачатку стагоддзя. Вельмі б хацелася адшукаць сваякоў на Беларусі".** Такі ліст прыйшоў ад Р.Клімко з Амерыкі.

**"Гэта мая першая паездка сюды, —** піша спадарыня Рэйчал Тод з Вялікабрытаніі. — **Я прыехала ў пошуках сваіх каранёў, дзед і бацька нарадзіліся ў Брэсце. Я вельмі рада, што прыехала. Сустрэла шмат добрых людзей, і мне спадабаўся Брэст. Калі вярнуся ў Ньюкасланон-Тайн, пастараюся сустрэцца з кіраўнікамі нашага гарадскога савета, каб прапанаваць нашым гарадамкрэпасцям стаць пабрацімамі. Трэба мацаваць адносіны, пашыраць турызм, знаёміцца з культурай адзін аднаго.**

**А яшчэ дасылаю свой верш, які я з натхненнем напісала ў Брэсце. Ён — аб зямлі маіх продкаў, аб жаданні, надзеі ўбачыць наш агульны край квітнеючым..."**

Іншыя замежныя грамадзяне сур"ёзна прапануюць эканамічнае супрацоўніцтва, дасылаюць на адрас Старшыні праспекты з рэкламай сваёй прадукцыі. Адна з такіх прапаноў ад гандлёвай кампаніі "Ратналока Дэлана Малеер" са Швейцарыі:

**"Наша кампанія добра вядома ва ўсім свеце. Калі будзе ў Беларусі попыт на нашыя тавары, — спадзяёмся на сустрэчу ў недалёкай будучыні".**

Некаторыя гатовы ўжо хоць зараз дапамагаць беларусам, напрыклад, Эдуард Фуцар з Кітая аказаў "фінансавую падтрымку" — даслаў ... тры кітайскія банкноты.

... А на заканчэнне — вось ліст з Нарвегіі ад Відара Ісаксена. Ён вельмі падрабязна расказаў аб сваім жыцці, працы і захапленнях, аб паўночным гарадку Тромсё, дзе пражывае.

**"Мы жывём у хвалюючы час. І тое, аб чым гаворым у Тромсё, гэта ў асноўным тое ж, што людзі абмяркоўваюць сёння ўсюды — сітуацыя ў Расіі, іншых новых дзяржавах СНД. У мяне цікавасць да вашай загадкавай** (так ён лічыць) **краіны з прыгожай назвай — Беларусь. Я б вельмі хацеў усталяваць паміж Нарвегіяй і вашай рэспублікай добрыя, шчырыя сяброўскія адносіны..."**

Вось такія маштабныя задачы ставяць перад сабой у сваіх лістах дзяржаўнаму лідэру Беларусі "маленькія людзі" з-за мяжы. І такога цеснага збліжэння з беларусамі сёння шчыра хочуць тысячы замежных грамадзян. Радуе гэта магутная плынь народнай дыпламатыі, якая сёння (што ўсё больш відавочна) у стане "рабіць пагоду" ў сусветнай палітыцы.

**Пошту аналізавала**
**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

## ДЗЕНЬ РУЖОВАЙ КВЕТКІ




# СВЕТ НЕ БЕЗ СПАГАДЛІВЫХ ЛЮДЗЕЙ



**Напярэдадні Вялікадня ў Вербную нядзелю маладыя дзяўчаты хадзілі па Мінску і разносілі ружовыя кветачкі. І той, хто браў іх, даваў узамен грошы — колькі мог. Так пачалася дабрачынная акцыя "Дзень ружовай кветкі". Праводзіцца яна з пачатку XX стагоддзя. І называлася яшчэ "Беларускі дабрачынны дзень". Але пра гэта мы амаль нічога не ведалі. У савецкі час свята фактычна было забаронена, бо яно быццам бы пярэчыла нашай маралі: дзяржава клапоціцца аб састарэлых, у камуністычным грамадстве не можа быць абяздоленых. Але давайце пакінем тую мараль і вернемся да дня сённяшняга.**

**У Вербную нядзелю сотні састарэлых сабраліся ў Доме ветэранаў, што на вуліцы Янкі Купалы. Іх запрасілі на свята, якое сёлета арганізаваў для іх выканком Цэнтральнага раённага Савета народных дэпутатаў горада Мінска. І тыя грошы, што сабралі дзяўчаты, і шматлікія ахвяраванні спонсараў пайшлі на арганізацыю свята, на дапамогу састарэлым, у дзіцячыя прытулкі. Напрыклад, у Вербную нядзелю кожны ветэран, які прысутнічаў на гэтай акцыі, атрымаў 2 тысячы рублёў.**

**— У наш час, — расказваў расчулены 75-гадовы Аляксандр Юрчанка, — гэта таксама грошы. Вялікае дзякуй спагадлівым людзям, якія праявілі такі клопат аб нас, нямоглых. Галоўнае ж, што пра нас не забыліся.**

**Так, шмат спагадлівых людзей прынялі ўдзел у гэтым свяце. Адзін з іх — дырэктар вытворча-камерцыйнай фірмы "Белнацыяналсервіс" Ігар Клюеў. Выступаючы перад ветэранамі, ён сказаў, што пералічвае ў іх фонд 800 тысяч рублёў. І гэта не ўсё: яшчэ 250 тысяч рублёў людзям, прыкаваным да ложкаў. Фірма будзе штомесяц пералічваць у сацыяльны фонд па мільёну рублёў!**

**Для састарэлых у Доме ветэранаў былі арганізаваны дабрачынны абед, канцэрт, гучалі словы спадзявання, што свята адродзіцца і ў іншых мясцінах Беларусі. Яно, як сказаў старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Валянцін Бялявін, зближае і з'ядноўвае людзей, служыць напамінам, што старасць чакае ўсіх, што сёння ты дапамог нямогламу чалавеку, а заўтра нехта дапаможа табе.**

**Справядлівыя словы.**

**Яўген ІВАНОЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час свята "Дзень ружовай кветкі".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ

## МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА
## ФІЛАРЭТА
## ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ ЧЛЕНА СВЯШЧЭННАГА СІНОДА

*Вчера спогребохся Тебе Хрісте,*
*совосстаю днесь, воскресшу Тебе,*
*сраспінахся Тебе вчера,*
*Сам мя спрославі Спасе*
*во Царствіі Твоем.*

**Канон Пасхі, спеў 3.**

### УЗЛЮБЛЕНЫЯ Ў ГОСПАДЗЕ ПРЭАСВЯШЧЭННЫЯ АРХІПАСТЫРЫ, ПАСТЫРЫ, БАГАЛЮБНЫЯ ІНАКІ І ІНАКІНІ І ЎСЕ ВЕРНЫЯ ЧАДЫ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ!

У гэты ўратавальны дзень Уваскрасення Хрыстовага я зноў звяртаюся да вас з дарагім для ўсіх нас Пасхальным прывітаннем:

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Ці ёсць іншыя словы, такія ж святыя і блізкія сэрцу праваслаўнага хрысціяніна, і ці ёсць іншая часіна ў годзе, калі б дасягалася такая мера хрысціянскага спадзявання на Вечнае жыццё, як не ў сённяшнюю светлую ноч, як не ў цяперашні дзень?!

Бо менавіта тут і цяпер *"крест претерпевый, и смерть упразднивый, и воскресый из мертвых"* Гасподзь наш Ісус Хрыстос перамяніў усе маркоты і смутак дольняга свету, калі Ён пасля Свайго паўстання з гроба прывітаў Сваіх вучняў адным толькі словам: *"Радуйтеся!"*

Бо менавіта тут і цяпер светла святкуем мы перамогу Жыцця над тленнем, памятаючы словы старажытнага прарока Асіі: *"От власти ада Я искуплю их, от смерти избавлю их. Смерть! где твое жало? Ад! где твоя победа?"* (Ас. 13, 14).

**"Хрыстос Уваскрэс!"** У гэтых словах заключана вялікае таемства нашага быцця, сэнс нашага зямнога вандроўніцтва; у іх — наша сіла для дастойнага перанясення ўсіх нягодаў і цяжару, на якія гэтак шчодрая рэчаіснасць; у іх — наша мужнасць прад спакусамі гэтага свету і ў крушэннямі нашых надзей.

І сапраўды, дарагія браты і сёстры! да чаго яшчэ можам мы звярнуць нашы духоўныя вочы, калі не да Уваскрасення Хрыстовага? На што скіраваць нам свае думкі, на што яшчэ спадзявацца ў нядобрачасоўі маркотных будняў нашых, як не на Уваскрасенне Хрыстовае? Чым напоўніць сэрцы, што спусташаюцца нелюбоўю? — Адным толькі Уваскрэслым Хрыстом!

Узлюбленыя! У цяперашняе свята, калі *"вся исполнишася света, небо же и земля и преисподняя"*, калі ўсё стварэнне святкуе паўстанне Хрыстовае, калі ўвесь хрысціянскі свет уваccылае славу свайму Спасіцелю за дар Жыцця і Несмяротнасці, — я заклікаю вас, чады царкоўныя: адарыце чалавека — бліжняга свайго — увагай, клопатам, міласэрнымі адносінамі, ахвяруйце дзеля яго чым-небудзь дарагім у імя Хрыстовае. Тады радуйцеся, бо *"Пасха наша, Христос, заклан за нас"* (І Кар. 5, 7) і *"в третий день по Писанием"* дзівосна паўстаў з гроба. — **Хрыстос Уваскрэс!**

Сёння я звяртаюся і да тых, хто пасля доўгіх блуканняў і пошукаў толькі нядаўна ступіў на пуцявіну, што вядзе да Госпада і Царквы Яго, якую не адолеюць і брамы пякельныя: Радуйцеся, бо вы ўжо на шляху да Таго, хто Сам ёсць *"Путь и Истина и Жизнь"* (Ін. 14, 6). — **Хрыстос Уваскрэс!**

Я звяртаюся да ўсіх, хто спатыкнуўся і ўпаў на няроўнай сцяжыне гэтага свету пад бярэмем марных турботаў, азлаблення або ганарліўства, да ўсіх, хто ў служэнні мамоне адышоў ад Бога Ісціннага: Радуйцеся, бо ў вас не адабрана дараванне Таго, Хто Сам зведаў сіроцтва зямнога царства. Радуйцеся, згадваючы слова Ісуса, данесенае праз стагоддзі Евангелістам: *"Приидите ко Мне, вси труждающиися и обремененнии, и Аз упокою вы. Возмите иго Мое на себе, и научитеся от Мене, яко кроток есмь и смирен сердцем, и обрящете покой душам вашим"* (Мф. 11, 28—29). — **Хрыстос Уваскрэс!**

Узлюбленыя! Яшчэ раз заклікаю вас не азмрочыць невыслаўленай радасці сённяшняй урачыстасці затоенай крыўдай або раздражненнем на бліжняга, раўнадушшам і неспагадаю да лёсу абяздоленага, прадузятасцю, злаcлоўем і гневам. Спраўдзім жа запавет Уваскрэслага: *"Возлюби Господа Бога твоего всем сердцем твоим, и всею душею твоею, и всем разумением твоим: сия есть первая и наибольшая заповедь. Вторая же подобна ей: возлюби ближнего твоего, как самого себя"* (Мф. 22, 37—39).

Але прызнаемся перад Богам і перад сабою: ці заўжды следуем мы гэтым словам Спасіцеля — і ці заўсёды з'яўляемся мы хрысціянамі ў поўным сэнсе гэтага слова: бо Ісус жа казаў :*"О сем разумеют вси, яко Мои ученицы есте, аще любовь имате между собою"* (Ін. 13, 35). Ці памятаем мы пра гэта, калі дзеяннем або бяздзейнасцю, вольна або нявольна патураем тым, хто сее варожасць, адчужэнне, рознасць?! Няхай не будзе гэтага паміж намі! Але ўзлюбім Узлюбіўшага нас Бога свайго і адзін аднаго! Даруем адзін аднаму зграшэнні і крыўды, як вучыў нас дараваць Гасподзь! Суваскрэснем Яму верай, надзеяй і любоўю! І пакі ўзрадуемся, бо сёння збылося запаветнае спадзяванне Псалмапеўца, які ўсклікаў: *"Да воскреснет Бог!"*

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!
ІСЦІННА ЎВАСКРЭС!

**ФІЛАРЭТ,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі**

Пасха Хрыстовая,
1993 г.,
г. Мінск.

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# КАБ СТАЎ РОЎНЫ З УСІМІ

ХІБА НЯМА прыгажэйшай пары года, як вясна. Яе не толькі нецярпліва надчэкваюць людзі, асабліва дзеці, але ўсё жывое: расліны, лясы і пушчы, палі, сенажаці. Усё аджывае, атрасаецца ад летаргічнага сну і пялешчыцца ў лянівых промнях сонца. Зямля, змучаная ад снежных завеяў, аддыхае з палёгкай і апранаецца ў зялёнае. Птушкі, якія эмігравалі за далёкі акіян у пошуках сонца, вяртаюцца з клёкатам у свае гнёзды, дзе радзіліся, раслі. Мо таму, прыглядаючыся да іх павароту, з нейкай зайздрасцю ты стаіш і думаеш:

Было б лепш, каб я быў птушкай,
Лятаў бы ў вырай кожны год
І бел-чырвона-белай стужкай
Спавіў гаротны свой народ...

... Разам з вясной набліжаецца Вялікдзень — свята ўсіх свят, якое прыносіць шмат успамінаў з маладых юнацкіх гадоў. Вясна і Вялікдзень неразлучныя. А колькі ж настальгічных успамінаў прыносяць яны. Не толькі аб маладых школьных гадах, але аб нашых рэлігійна-традыцыйных святах, звязаных і з вясной, і з Вялікаднем. Перша-наперш Вербная нядзеля. Ты рыхтуешся да яе, ты чакаеш яе. Прыбіраешся ў лепшую вопратку і грамадой ідзеш у святыню, якая ў гэты дзень аж лопаецца ад напору людзей. Вяртаючыся дамоў, дзетвара і моладзь з вясёлымі тварамі б'юць адны другіх свянцонай галінкай вярбы і прамаўляюць: "Не я б'ю, вярба б'е — за тыдзень Вялікдзень". Нямала было пры гэтым і смеху, і жартаў, а хіба найбольш радасці, што ўсяго адзін тыдзень да Вялікадня. Не менш прывабнай і традыцыйнай была "ўсяночная". У гэты дзень усе работы ўжо скончаны. У хаце чысценька прыбрана, памыта, пабелена. Нават панадворак падмецены новым венікам, каб выглядаў прыгажэй і даў больш святочнага настрою. Перад змярканнем маткі і бабулі падрыхтоўвалі кошыкі і карзіны з каўбасой і шынкай, маслам і сырам, хлебам і соллю, каб занесці ў святыню на пасвячэнне на велікоднае разгаўленне. Але хіба найважнейшым з традыцыйных абычаяў было яечка, якое звычайна фарбавалася на чырвонае ў сухіх лупінах леташняй цыбулі. Чырвоны колер, згодна нашых прадзедаў, нагадваў нам вясновае сонца. Гэты сымбалічны абычай перахаваўся да сённяшняга дня ў хрысціянскіх веравызнаннях ва Усходняй Еўропе. Дзверы святыні ў гэты дзень былі адчынены з самага вечара і пачыналі напаўняцца старэйшымі прыхаджанамі, якія хацелі заслухаць поўнасцю чытанне "Дзеянне святых апосталаў", якое адбывалася перад "плашчаніцай", размешчанай пасярэдзіне царквы. Чытанне звычайна пачыналася дыяканам, а пасля пераймалася харыстамі або нават кім-небудзь з прыхаджан з добрым голасам і ведаю славянскага алфабэту. Гэтае чытанне вялося да самай поўначы, пасля чаго была кароценькая малітва "паўночніца". У гэтым часе царква ўжо была перапоўнена, і не раз было цяжка павярнуцца. Жанчыны і дзяўчаты ў каляровых хустках стаялі на левым баку, а мужчыны і хлопцы, якіх у параўнанні з імі было шмат менш, на правым. Пасля поўначы "плашчаніца" пераносілася з сярэдзіны царквы, і цяпер пачыналася святая літургія, якая, трэба сказаць, займала больш дзвюх гадзін. Каля гадзіны трэцяй раніцы кожны прыхаджанін запальваў купленыя свечкі і рыхтаваўся да "хрэснага ходу". Перш святар з крыжам у руках выходзіў з царквы, за ім хор, а пасля вольным крокам усе прыхаджане, несучы высока ўзнятыя прыбраныя вышыванымі ручнікамі і паясамі святыя іконы. Дзверы царквы зачыняліся царкоўным старастам, і "хрэсны ход" па рэлігійнаму звычаю абыходзіў тры разы вакол царквы. Святар паўспевам прамаўляў: "Хрыстос уваскрос з мёртвых, смерцю смерць паканаў і тым, хто ў грабох, жыццё дараваў". Хор, а таксама ўсе прыхаджане на гэтыя словы адказвалі такім самым прыпевам, які можна было чуць у бліжэйшых вёсках. Гэты рэлігійна-традыцыйны абыход канчаўся, і стараста адчыняў дзверы святыні. Прыхаджане звычайна займалі свае папярэднія месцы, і неўзабаве святар з крыжам у руках выходзіў з-за "царскіх дзвярэй", робячы ў паветры знак крыжа, вітаў усіх прысутных словамі: "Хрыстос уваскрос!" І здавалася, тысячы галасоў адказвалі аднагалосна: "Сапраўды ўваскрос!" Хор пачынае спяваць велікодную песню: "Вялік святы нам дзень настаў", і ўсе прыхаджане з вясёлымі тварамі далучаюцца да хору.

І толькі цяпер кошыкі і карзіны, якія стаялі паабапал сцен царкоўнага калідора або на панадворку, дачакаліся сваёй калейкі.

Святар з крапідлам у руцэ, а за ім увесь цяркоўны хор, не прамінуць ні адной прынесенай карзінкі, і прыхаджане, змучаныя доўгай "усяночнай", накрываюць зноў свае кошыкі і карзіны і спяшаюцца дадому. Мужчыны, якім трэба было астацца дома даглядаць за дзецьмі, ужо даўно гатовы да гэтага разгаўлення. Ды і дзетвары неяк не спалася. Яны ўжо на нагах і з прыліпшымі да вокнаў тварамі ўглядаюцца ў той бок, скуль ішла іх маці ці бабуля з свянцонаю карзінай. І толькі тады, як усе ў доме, садзяцца па сваіх месцах за накрытым белым абрусам сталом. Гаспадар па звычаю налівае чары і, узняўшы сваю ўгору, жадае сям'і шмат дабра, шчасця, здароўя і добрага ўраджаю. "Дай Бог дачакацца ўсім гэтага свята наступным годам". Заканчвае сваю кароценькую прамову словамі: "Хрыстос уваскрос!" Уся сям'я, узняўшы чаркі, адказвае шэптам: "Сапраўды ўваскрос!".

Пасля святочнага разгаўлення старэйшыя адпачываюць, а дзетвара пачынае гуляць у біткі. Апроч святочнага разгаўлення і крашаных яек не менш папулярнымі былі валачобнікі. Яны — падлеткі — рыхтаваліся да гэтага свята некалькі тыдняў, гарманізуючы свае галасы, вывучаючы словы песень і святочных віншаванняў. І ўсё гэта прыходзілася рабіць патаемна, не раз у гумнах або ў паветках, бо спяваць у хаце падчас посту, ды яшчэ велікодныя песні, не дазвалялася. Гэта быў бы найбольшы грэх, якога не змог бы ні схаваць, ні пазбавіцца ні перад бацюшкам, ні перад самім Богам. Прынамсі, нам так гаварылі бабулі. Апроч агульнай і мо найбольш папулярнай песні "Вялік святы нам дзень настаў", былі іншыя велікодныя песні: "Добры вечар, пану гаспадару!", "Хрыстос уваскрос, сын Божы". Не забывалася і гаспадыня. У песні хвалілася яе чысцютка прыбраная хата, накрыты белым абрусам стол з рознымі прысмакамі, тортам і пірагамі. Таксама не забывалася песняй і дачушка (калі яна ў іх была): "Ці не пара ўжо ёй выходзіць замуж, а сколькі ж жаніхоў на яе чакае?". Яна, не раз у школьным веку, ружавела ў твары і, саромеючыся, хавалася за матчыным фартухом або спадніцай. І так валачобнікі ў 5—6 асоб хадзілі ад хаты да хаты да позняй начы з гэтымі песнямі, аб'яўляючы радасць: "Хрыстос уваскрос!". Атрымаўшы ў кожнай хаце пірага і сыра, яны роўна дзяліліся, а назаўтра, ахрыпшыя, гулялі з усёй дзетварой у біткі. У позняй начы не раз іх бацькі пераймалі гэту ролю валачобнікаў і запрашалі адзін другога ў хаты, каб павіншаваць гаспадыню ды пры нагодзе яшчэ раз выпіць лішнюю чарку, успомніць маладыя гады.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# БЕЛАРУСЫ АРГЕНЦІНЫ

### ГІСТОРЫКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ ПАРТРЭТ НАШАГА СУАЙЧЫННІКА З БЕРАГОЎ РЫО-ДЭ-ЛА-ПЛАТЫ



Працяг. Пачатак у № 15.

## 2. Х.Б. АЛЬБЕРДЗІ: "КІРАВАЦЬ КРАІНАЙ — ЗНАЧЫЦЬ НАСЯЛЯЦЬ"

Эміграцыя залежала не толькі ад расійскіх унутраных "спружын", што выціскалі дужыя рабочыя рукі з Беларусі, краіны донара гэтай сілы, ад міжнароднага рынку, але і ад здольнасцей Аргенціны як дзяржавы-рэцыпіента беларускіх працаўнікоў. Здольнасцей і магчымасцей было многа. Яны абумоўліваліся імклівым (на той момант) развіццём нацыянальнай эканомікі, хуткім перамяшчэннем у аргенцінскую гаспадарку замежнага капіталу, найперш англійскага.

У канцы XIX стагоддзя краіна срэбра вырульвала на старт прагрэсу адначасова з вядучымі краінамі Еўропы. Яе нацыянальны даход, саступаючы ЗША ў два разы, быў прыкладна роўны паказчыку Германіі, Бельгіі — вышэйшым, чымсьці ў Аўстрыі, Італіі, Іспаніі і г.д. У 80-х гадах Аргенціну называлі "рогам дастатку", "фермай і жытніцай" свету, "мясной крамай" планеты.

Гэтыя тэндэнцыі разам з высокай іміграцыйнай патэнцыяй да прыёму іншаземцаў (малая шчыльнасць насельніцтва, свабодныя для піянерскага засялення землі, патрэба ў рабочых руках, высокі кошт працы) прадвызначылі дзяржаўную іміграцыйную палітыку Аргенціны. На рубяжы XIX і XX стагоддзяў яна насіла ліберальна-пратэкцыяніцкі характар і за стрыжань мела паблацыяніцкія мэты — засяленне. Гэтае пытанне вартае таго, каб засяродзіцца на ім і на перадгісторыі асобным рыштункам, бо ўсе наступныя хвалі беларускіх імігрантаў у большай ці меншай ступені будуць падлягаць пад літару аргенцінскай іміграцыйнай палітыкі XIX стагоддзя.

...На Ла-Плаце яшчэ ішла вайна паміж Буэнас-Айрэсам (унітарыямі) і Канфедэрацыяй, астатнімі правінцыямі (федэралістамі), а дэлегаты ад правінцый рыхтавалі тэкст Канстытуцыі Аргенцінскай Нацыі, прынятай 1 мая 1853 года. Яна разам з аб'яўленнем недатыкальнасці прыватнай уласнасці, роўнасці грамадзян перад законам, абвяшчэннем свабоды слова, свабоды друку — заклала і заканадаўчы падмурак пад іміграцыйную палітыку. Артыкулы 20 і 25 пракламавалі роўнасць іншаземцаў пры карыстанні грамадзянскімі правамі, вельмі нязначны двухгадовы цэнз аселасці, які пры неабходнасці мог да таго ж і скарачацца ўладамі. Федэральны ўрад абавязваўся садзейнічаць еўрапейскай іміграцыі і не меў права абмяжоўваць яе падаткамі.

Праз дзевяць гадоў пры праўленні прэзідэнта Мірэ выдаецца дэкрэт, згодна з якім ураду давалася права заключаць кантракты з замежнымі краінамі на вярбоўку і дастаўку імігрантаў. Кожнай сям'і перасяленцаў выдавалася па 25 гектараў зямлі. І калі каланіст на працягу двух гадоў асвойваў яе, наладжваў гаспадарку, надзел пераходзіў у яго ўласнасць. (Вось яны, тыя "крылы" пагалосак, што не давалі спакойна спаць беларускаму аратаму!).

У 1876 годзе прэзідэнт Н. Авельянеда садзейнічае прыняццю "Закона аб эміграцыі" пад нумарам 817 ад 19 кастрычніка. Утвараецца Генеральны дэпартамент па іміграцыі. У правінцыях адкрываюцца іміграцыйныя камісіі, у Еўропе — бюро па вярбоўцы. Закон ускладаў на ўрад абавязак субсідзіраваць з дзяржаўнай казны праезд іміграната з порта да месца гаспадарання. Пад ільготны працэнт выдаваліся пазыкі на гаспадарчыя патрэбы. Закон уводзіў і абмежаванні на пропуск іміграната-злачынцы, які ўжо ціхай сапай запаланяў Буэнас-Айрэс. Крок за крокам іміграцыйнае заканадаўства траціць ліберальнасць. З надыходам XX стагоддзя ўводзіцца Закон аб рэзідэнцыі 4.144, які дазваляе дэпартацыю тых імігрантаў, хто практыкаваў прафсаюзную ці палітычную дзейнасць. А ў 1910 годзе прымаецца папраўка, ад якой аргенцінская дэмакратыя ажно войкнула: аб недапушчэнні ўезду "каляровых". І сёння срэбраная краіна — самая "белая" на кантыненце...

Распрацоўка аргенцінскай іміграцыйнай палітыкі звязваецца найперш з імем яшчэ аднаго вядомага дзеяча, прэзідэнта краіны, драматурга Хуана Баўтыста Альбердзі. "Мы небагатыя, — гаварыў ён, — але не ведаем і галечы. Багацце ў працы, і таму магутным элементам росквіту з'яўляецца іміграцыя; яна заселіць пустыню і забяспечыць абарону рубяжоў; трэба, каб імігрант трапіў у глыб дзяржавы; продаж народнай зямлі аблягчыць яму аселасць. Кіраваць краінай — значыць засяляць".

Адным з накірункаў практычнага ўвасаблення іміграцыйнай палітыкі (як і ваенна-стратэгічнай дактрыны па "абароне рубяжоў", якая канцэптуальна супадала недзе з расійскай, з яе казацкімі "станіцамі") было хуткае будаўніцтва калоній-пасяленняў. У іх ці вакол іх, нядоўга пачакаўшы, пачнуць уладкоўвацца і беларусы.

**ШТРЫХІ... Першую хвалю эміграцыі беларускіх сялян у Аргенціну, як і другую, і трэцюю, нельга адрываць ні ад міжнароднага перасялення народаў, ні тым больш ад міграцыйных наплываў у іншыя куткі Паўднёвай Амерыкі. І першым чынам яна, эміграцыя, цесна зніто ўваецца з перасяленчым рухам у Бразілію. Праўда, у порце Буэнас-Айрэса ўжо швартаваліся караблі-транспартнікі з жывой сілай, калі толькі ў 1888 годзе бразільская прынцэса Ізабэла абвясціла аб ліквідацыі рабства. Пройдзе ўсяго пару гадоў, і Еўропу, а з ёю і Беларусь скалыхне "першая бразільская ліхаманка" 90-х і заразіць вірусам эміграцыі ў Бразілію нават больш "хворых", чым у Аргенціну. А ў 1908—1910 гадах — другая, ды на гэты раз спаборніцтва выйграе краіна срэбра. Што да бразільскай іміграцыйнай палітыкі, дык яна адрознівалася ад аргенцінскай больш жорсткай рэгламентацыяй; ставіліся і вырашаліся задачы, апроч эканамічных, і нацыянальнага парадку па кансалідацыі шматлікай імігранцкай збор-дружыны ў адзіную нацыю. Імігрантамі разбаўлялася партугальская каланізатарская праслойка грамадства.**

**Выхадцаў з аднаго рэгіёна звычайна не сялілі разам. Іміграцыйная палітыка абапіралася не на тое, каб даць ім сінекуру, а каб затрымаць і назаўжды пакінуць на зямлі Бразіліі. Учыняліся ўсемагчымыя перашкоды тым, хто збіраўся вяртацца на радзіму.**

**У размовах аргенціны нярэдка заўважаюць, маўляў, бразільцы гэта нацыя, што мы праціў іх. Тым болей, не раўнуючыся з ЗША... А там, як і ў Аргенціне, з 1880 года распачынаецца другі пад'ём іміграцыйнай хвалі, але са спазненнем на 6 гадоў, адлічваючы ад аргенцінскага закона 1876 года. Кангрэс ЗША прымае рашэнне аб неабходнасці стварэння адпаведнага заканадаўства. Так што Аргенцінскую Рэспубліку XIX стагоддзя варта прызнаць лідэрам і першаадкрывальніцай сусветнай дэмакратычнай думкі ў дачыненні да працоўных эмігрантаў. Тут пара прыпыніцца, расхвальваючы чужую бочку мёду, каб разбавіць яе глыбокай лыжкай дзёгцю.**

## З ПЕРШАГА РАЗУ НЕ ПРЫЖЫЛІСЯ

... Як бы лагодна ні хілілася да беларускага Янкі звонку дэмакратычная літара аргенцінскага заканадаўства, Ла-Плата прымала і закон, і беларусаў зусім інакшым кшталтам.

Варункі сезоннай працы на плантацыях, як мы ўжо згадвалі, былі звышцяжкімі. А для тых нямногіх, хто збіраўся там звіць сваё гняздо, — і больш таго.

Галоўная ж бяда, якая з цягам часу зробіцца непераможнай, мясцілася ў патрыярхальнай сістэме землекарыстання. Не быў развязаны цэнтральны вузел аргенцінскага "пераходнага перыяду": выдзяленне зямлі ў прыватную ўласнасць. Рэформы прэзідэнтаў-дэмакратаў, якія прадугледжвалі надзяленне імігрантаў зямлёй, натыкаліся на шалёнае супраціўленне буйных латыфундыстаў, чые продкі-канкістадоры за нітку танных, але пякельна бліскучых пацерак выкупілі ў індзейцаў цэлыя абшары. А як праекты і намеры надзялення зямлёй прышлых людзей не спраўдзіліся і ўласнікамі становіліся адно тыя, хто меў грошы, перад імі паўстала пытанне: ці ісці ў горад, ці наймацца парабкам, ці ад'язджаць дахаты. Беларускія імігранты падаюцца ў лона вялікіх гарадоў, пераважна ў Буэнас-Айрэс. Іміграцыя ператвараецца ў гарадскі феномен, расцякаючыся па будоўлях, англійскіх "фрыгарыфіках" (мясакладабойнях) "Свіфт", "Армо", "Вільсан". Аднак Аргенціна ўжо паглыбляецца ў ледзяную (пасля гарачага і прыемнага душу часоў "дастатку" і аптымізму) купель крызісаў і песімізму. Іх механізм, на погляд аргенцінскага вучонага Брайлоўскага, заўжды адзін — "празмерная залежнасць ад знешняга сектара", ад замежнага капіталу.

А крызісы, спад прамысловасці, скарачэнне рабочых месцаў адразу адбіваюцца на ўзроўні жыцця мігранта-беларуса. І ён разам з аргенцінскімі рабочымі і эмігрантамі іншай нацыянальнасці выходзіць на вуліцу, далучаецца да страйкаў.

Застаецца невысветленым, колькі імігрантаў беларускага паходжання знаходзілася сярод дзвюх соцень палітычных бежанцаў з Расіі, якія аб'явіліся ў Аргенціне пасля паражэння першай рускай рэвалюцыі 1905 года. Тым не меней, на думку аднаго з фундатараў беларускіх таварыстваў 30-х гадоў У. Гайлевіча, яны там былі. Намаганнямі гэтай групы засноўваецца Федэрацыя рускіх рабочых арганізацый у Аргенціне. (Пасля яна раз'ядноецца на анархісцкую большасць і бальшавіцкую меншасць і праіснуе да 1917 года). Гэтая акалічнасць не выклікала пазітыўных эмоцый у мясцовых органаў улады. Ды пакуль міністр сельскай гаспадаркі Д. Тарына, якому падначальваўся Галоўны дэпартамент па іміграцыі, кідаў гнеўныя філіпікі: "Найгоршым элементам, якому нельга дазваляць уезд у краіну, з'яўляецца рускі анархічны і рэвалюцыйны элемент. Пазбаўлены сродкаў і здольнасцей да карыснай і выгаднай работы, ён у рэальнасці — сродак беспарадку і прапаганды ідэй, варожых грамадскаму дабрабыту", а расейскае пасольства ўскладала віну за беспарадкі на яўрэяў, — бальшавіцкая меншасць федэрацыі вывучала творы Маркса і Энгельса. Анархісцкая ж большасць разам з кніжкамі Крапоткіна, Бакуніна экспартавала ў Буэнас-Айрэс і бомбы. Апошнія, шчыра кажучы, узрываліся адно выпадкова і самаадвольна ў валізках перавозчыкаў-бамбістаў альбо на явачных кватэрах ваяроў за анархію.

Мігранты-працаўнікі з Беларусі перш хвалі, дзе адно можа адзінкі належалі да інтэлігенцыі, былі пазбаўлены нацыянальнай свядомасці. Яны хадзілі за акіян на заробкі грамадзянамі Расіі каталіцкай альбо праваслаўнай веры, што мы ўжо зазначылі раней. Беларусы-католікі раствараліся ў асяроддзі польскай іміграцыі, маючы магчымасць у каталіцкай Аргенціне вызнаваць сваю веру. Польскія таварыствы паўсталі ў ла-плацкім краі прыблізна ў 90-х гадах XIX стагоддзя.

А беларусы-праваслаўныя далучаліся да расійцаў і траплялі пад духоўны ўплыў Рускай праваслаўнай царквы. Вернікі праваслаўя грэкі, балгары, сірыйцы, ліванцы, што жылі ў Аргенціне, звярнуліся да Аляксандра III з просьбай адкрыць праваслаўную царкву. Першы святар К. Ізразцоў быў накіраваны ў краіну гаўча ў 1891 годзе. А праз дзесяць гадоў у сталіцы адчыніў дзверы для прыхаджан храм Святой Тройцы.

...З надыходам першай сусветнай вайны падае амплітуда хвалі беларускіх імігрантаў, якая адбіваецца ад аргенцінскага берага і імчыць назад. Упершыню ў XX стагоддзі ў 1914 годзе выезд імігрантаў з Аргенціны на 45 тысяч перасягае ўезд. Царская Расія клікала пад баявыя штандары не толькі патэнцыяльных кандыдатаў у эмігранты з Беларусі, але і сваіх падданых, што зараблялі грошы на берагах срэбранай рэчкі. Так што там засталіся вельмі і вельмі нямногія: хто не хацеў служыць у войску і ваяваць, каму не дазвалялі палітычныя перакананні. І, безумоўна, каму пашчасціла разжыцца зямлёй і завесці сям'ю, што было няпроста зрабіць нежанатым імігрантам. Дэмаграфічная сітуацыя ў краіне складвалася не на карысць іхніх натуральных памкненняў да працягу роду ва ўмовах эміграцыі — "вольная" жанчына была ў Буэнас-Айрэсе "раскошаю".

Драматызм новага жыцця, невыказанае каханне, смутак, настальгія, злосць, крушэнне мараў, незадаволенасць вырваліся аднойчы з сэрца іміграната і запалілі іскрамётную мелодыю аргенцінскага танга "песню Буэнас-Айрэса", як яго інакш называюць. Прыслухайцеся, у ім ёсць і беларускія матывы... Аднак танцаваць танга прыйшлося хіба што на родным дзядзінцы...

Нягледзячы на тое, што першая хваля не пакінула ў краіне гаўча вялікай іміграцыі пасля сябе, яна пралажыла зручнае рэчышча і сталася надзейным адрасам — маяком, на які будзе выпраўляць курс і другая, самая масавая хваля 1922—1939 гадоў.

**ШТРЫХІ... Немагчыма ўявіць сабе Аргенціну без рэльефнай сутулаватай фігуры гаўча вярхом на кані. Ён, "казак пампы", — спрытны, вынослівы і дужы коннік, умелы жывёлавод і пастух. Яго ўладанні — роўнядзь пампасаў, стэпу маўклівага і адзінокага (як і ён сам), што цягнецца ад Патагоніі да бразільскага штата Рыо-Грандэ дэль Сур. Яго багацце заўжды пры ім: гітара, ласо. Верыць таму, хто ніколі не здрадзіць, — паслухмянаму каню і востраму нажу. Традыцыйная вопратка: пончa, пад індзейскім фартухом "чырыпа" — шаравары, падпяразаныя шырокай папругай. На нагах мяккія боты, вырабленыя і пашытыя са скуры жарабяці. (Дарэчы, сухі прыемны пах скуры нязменна суправаджае кожнага аргенцінца). На галаве самбрэра. Понча — звыклае адзенне горца альбо жыхара стэпу. Гэта накідка, зробленая з баваўны, поўсці альпакі (паўднёваамерыканскай казы) ці вігоні (від ламы), нярэдка з воўны. Лепшым лічыцца понча з вігоні. Важыць, пры шырыні 9 метраў, усяго 400 грамаў і каштуе дорага. У надзённым жыцці і клопатах касцюм гаўча выглядае больш празаічна.**

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

(Працяг будзе).



Беларускі мастак-графік Валянціна Сідарава ў душы, відаць, казачніца. Надзіва добра разумее яна свет дзяцей і бачыць яго ззяючым, радасным, смяшлівым, як і само дзяцінства. Валянціна ілюструе кнігі для дзяцей. І робіць гэта з вялікай любоўю, надзяляючы герояў казак — ката Максіма ці Жабу-Зелянушку — чалавечымі якасцямі, прыбіраючы звяркоў у прыгожую адзежу. Афармленыя мастачкай дзіцячыя выданні "Незвычайны карагод", "Дзятлава кузня", "Дзіўныя блізняты" і іншыя адзначаліся рознымі дыпломамі. А "Залатое пяро" прызнана ў Вільнюсе лепшай кнігай года. Валянціна ж стала лаўрэатам конкурсу "Кніжная графіка-92", які праходзіў там.

НА ЗДЫМКАХ; мастак-графік Валянціна СІДАРАВА; кнігі, афармленыя мастачкай.

Фота У. ШУБЫ.




*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# КАЛІНА — ЯГАДА ГАЮЧАЯ

У кожны свой прыезд ва Уборкі ён пачынаў заўважаць, што нязменна прыгадваюцца радкі: "И дым Отечества нам сладок и приятен". Не таму, што вельмі любіў паэзію, не мог без яе, як кажуць, і дня пражыць. Апалінар Гараўскі заўсёды гатовы быў схіліць галаву перад талентам, захапіцца яго надзвычайнай празорлівасцю, здатнасцю надзіва арыгінальна выказаць тое, што на душы, бадай, у кожнага.

Проста, так проста і разам з тым гэтак узрушліва Аляксандр Грыбаедаў сказаў аб любві да матчынай зямлі, да радзімы. Значыць, і да яго Уборкаў, да ўсёй Мінскай губерні. Да людзей, з якімі ён пастаянна сутыкаецца, наведваючы бацькоўскі маёнтак. Даўно, з маленства палюбіў ён тутэйшую мову, карыстаецца свабодна ёю, як і рускай, калі прыязджае ў сталіцу.

Сяляне гэта хутка заўважылі, хоць спачатку і не хавалі свайго здзіўлення. Адна старая жанчына нават, зрабіўшы паклон пры сустрэчы, перахрысціўшыся, не ўстрымалася, запыталася:

— Чаму ж гэта, панічок, ты панашаму мовіш, як быццам і ў горадзе не жыў?

— Кажаш, маці, па-вашаму моўлю? — заўважыў, як жанчына ад гэтага "маці" сумелася, быццам спалохалася, не прывыкла, каб яе гэтак называлі чужыя людзі, тым больш з панскага роду. Аднак выгляду не падаў, працягваў: "Чаму "па-вашаму"? Пасвойму гавару. Ці ж я не тут нарадзіўся? Не на гэтай зямлі мае карані?"

Некалькі пейзажаў пісаў А. Гараўскі тут, ва Уборках. На палотнах ажывалі краявіды, якія палюбіў і памятаў з маленства. І хоць занатоўваў усё з натуры, відаць, не адзін эцюд мог бы нарадзіцца і ў кабінетнай цішы. Але прывык Апалінар Гілярыевіч да дакладнасці, не мог дазволіць сабе хоць малейшага фальшу.

Асабліва шмат клопатаў дала карціна "Ліпы". Не таму, праўда, што матэрыял "упарціўся", не клаўся на палатно. Прычына была ў іншым. Меўся Гараўскі падарыць гэтую работу вядомаму калекцыянеру, збіральніку жывапісу К. Салдаценкаву, які, як і знакаміты П. Траццякоў (а з імі ободвума Апалінар Гілярыевіч сябраваў, падтрымліваў самыя цесныя творчыя сувязі), прапагандаваў мастацтва сярод народа.

Марудна прасоўвалася праца, але прыносіла тое асаблівае задавальненне, якое, відаць, і не заўсёды магчыма словамі выказаць. Вытокі яго знаходзяцца ў нечым невытлумачальным. Здавалася б, і тыя ж карціны "Бераг ракі Свіслач", "У ваколіцах крэпасці Бабруйск", "Вечар" ды і шэраг партрэтаў, зробленых па заказах, павінны былі таксама даваць мастакоўскую асалоду. Пісалася лёгка, ды і ўзровень прыстойны. Але сам ён добра разумеў, што здатны на большае, чым на простае фатаграфаванне рэчаіснасці. Мела месца і пачуццё прафесійнага гонару. Хацелася быць не проста мастаком, а менавіта Гараўскім. Тым Гараўскім, хто меў ужо сваё імя ў мастацтве і хто першымі карцінамі заваяваў прызнанне — і крытыкаў, і сталічных аматараў прыгожага.

...Нарадзіўся А. Гараўскі 30 студзеня 1833 года ў збяднелай дваранскай сям'і, у маёнтку Уборкі (цяпер вёска ў Чэрвеньскім раёне). Калі споўнілася дзесяць гадоў, бацькі аддалі хлопчыка на вучобу ў Брэст-Літоўскі кадэцкі корпус. Магчыма, і пачаў бы Гараўскі авалодваць пакрысе прыступкамі афіцэрскай кар'еры, калі б братам начальніка корпуса, палкоўніка Бенуа, не з'яўляўся вядомы мастак і архітэктар М. Бенуа, а Апалінар не меў цягі да малявання.

У адзін з прыездаў у Брэст-Літоўск Бенуа пазнаёміўся з малюнкамі А. Гараўскага. Спрактыкаваным вокам заўважыў, што з гэтага хлапчука можа атрымацца таленавіты мастак. Безумоўна, пры спецыяльнай адукацыі. М. Бенуа пачаў рыхтаваць А. Гараўскага да паступлення ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў.

Не менш пашчасціла А. Гараўскаму і ў самой акадэміі. Канешне, там працавала шмат вопытных педагогаў-практыкаў, але далёка не ўсе студэнты маглі пахваліцца, што іх настаўнікамі з'яўляюцца такія знакамітыя майстры, як Ф. Бруні і М. Вераб'ёў. У арыентацыі А. Гараўскага на напісанне пейзажаў яны не памыліліся. Калі ў час акадэмічных канікулаў у 1852 годзе ён напісаў карціну "Балота" і прадставіў яе на акадэмічны мастацкі савет, яна аднадушна атрымала высокую ацэнку. Нават царскі наследнік, які ведаў толк у мастацтве, зацікавіўся ёю і з задавальненнем набыў для свае калекцыі. Прыхільна былі сустрэты і іншыя творы А. Гараўскага, прапанаваныя праз год.

Творчы шлях маладога мастака пачынаўся як нельга лепш. А гэта адкрывала перспектывы. Па тагачасных правілах аўтар, які атрымліваў за свае работы пэўную колькасць сярэбраных і залатых медалёў, меў права прэтэндаваць на вялікі залаты медаль. Такая колькасць узнагарод у А. Гараўскага неўзабаве была. М. Бенуа, які ўважліва сачыў за поспехамі свайго выхаванца, разумеў: А. Гараўскі абавязкова павінен напісаць нешта значнае, што магло б прынесці яму чарговы поспех, стаць надзвычай важнай прыступкай ва ўдасканаленні майстэрства. М. Бенуа якраз набыў маёнтак у Пскоўскай губерні. Тутэйшыя краявіды яму вельмі падабаліся. "Гараўскага б сюды!" — узнікла думка, і праз некаторы час Апалінар Гілярыевіч атрымаў запрашэнне ад настаўніка прыехаць на месяц-другі пагасцяваць. І само сабой зразумела — папрацаваць на натуры.

Не памыліўся і на гэты раз М. Бенуа. Карціна "Від у Пскоўскай губерні", напісаная Апалінарам Гілярыевічам у маёнтку, атрымалася цудоўнай. М. Бенуа не хаваў захаплення, хоць адкрыта ўражаннямі не вельмі дзяліўся, чакаў, што скажа мастацкі савет акадэміі. На савеце, як і трэба было чакаць, ацэнку далі высокую. А. Гараўскаму прысудзілі вялікі залаты медаль. За гэтую ж карціну ён атрымаў і званне "класнага мастака". А гэта значыць, аўтаматычна атрымліваў права на замежныя камандзіроўкі. Другі б, вядома, на месцы А. Гараўскага, не задумваючыся, ухапіўся б за такую мажлівасць. Але Апалінар Гілярыевіч вырашыў па-свойму: падаўся ў родныя Уборкі.

У маёнтку бацькоў ён пражыў да мая 1858 года. Праца над "Ліпамі", хоць і ішла павольна, але блізілася да завяршэння. Напісалася і некалькі эцюдаў. Праўда, непакоіла А. Гараўскага, што марудна прасоўвалася праца над карцінай "Старая моліцца", задума якой узнікла, калі выпадкова сустрэўся на вясковай дарозе са старой сялянкай.

Праз нейкі тыдзень пабачыўся з жанчынай, растлумачыў усё. Тая ад дзіўнай для яе прапановы пазіраваць толькі перахрысцілася ды няўцямна прамовіла:

— Панічок, а навошта гэта...

Нічога не адказаў, бо позірк схапіў тое, што яму, згодна з задумай, і патрэбна было. Жанчына, хвалюючыся, у гэты момант падняла рукі ўгору, каб зноў перахрысціцца. Ведаў ужо А. Гараўскі, абавязкова гэты рух ён адлюструе на карціне. Як залежнасць чалавека ад жыццёвых абставін пакажа, як пакорлівасць... Ды хаця ці толькі пакорлівасць?

Чым больш сустракаўся ён з сялянкай (а працу даводзілася і не на адзін тыдзень перапыняць, бо жанчына цяжка хварэла, бывала не адзін дзень ляжала ў ложку), тым больш апаноўвала яго думка. У гэтым маленні не толькі пакора, схіленне перад абставінамі, а і пратэст — нейкі незаўважны, унутраны — супраць несправядлівасцяў жыцця.

Цяжка працавалася, але, як ні дзіўна, меў вялікае задавальненне. Душой адпачываў, калі пісаў пейзажы, праз некаторы час зноў вяртаўся да карціны "Старая моліцца". Чарговая сустрэча з нямоглай жанчынай прыносіла ўпэўненасць, наколькі яна складаны характар і якую волю мае ў сабе! Гэта ж сапраўдны тып менавіта беларускай сялянкі! Падумаўшы, можна было б падкрэсліць гэта і ў самой назве палатна. Замяніўшы, скажам, яе на "Беларуска моліцца". Ці нешта ў гэтым духу зрабіць... Ды ведаў А. Гараўскі і іншае. Такой назвай ён у многім ускладніць шлях карціны да шырокага гледача. І на акадэмічным савеце з'явяцца праблемы. Як бы прадчуваў папрокі. Якая там яшчэ Беларусь? Якія беларусы?

Не толькі "дым Отечества нам сладок и приятен". Аказваецца, і гаркаватым ён можа быць... Падобныя думкі, аднак, не песімізм прыносілі з сабой, а радасць і ўзрушэнне. Ведаў ужо А. Гараўскі, што і надалей будзе песняром свайго краю, ніколі не адмовіцца ад сваіх каранёў. Куды б лёс ні закінуў, як далёка ні павёў бы ад родных мясцін, ён будзе памятаць: чакаюць яго Уборкі, чакаюць як сына, чакаюць як мастака, якому менавіта тут, на беларускай прыродзе, сярод беларускіх людзей, працуецца асабліва плённа і натхнёна.

Нельга было забываць і аб замежнай камандзіроўцы, адкладваць паездку надоўга. Таму ў 1858 годзе А. Гараўскі вярнуўся ў Пецярбург, узяўшы з сабой творы, напісаныя на радзіме, у тым ліку і першы варыянт карціны "Старая моліцца". Аформіў неабходныя дакументы і... Жэнева, Дзюсельдорф, Рым, Парыж... Горад за горадам, краіна за краінай... Незнаёмыя звычаі, незнаёмыя людзі. Аднак зусім не гэта прыносіла хваляванні, турботы. Пачаў заўважаць Апалінар Гілярыевіч, што за мяжой ён адчувае сябе непрыкаяным як творца. Там з'яўляліся і знікалі розныя мастакоўскія школы і плыні, вельмі далёкія ад яго ўласных памкненняў. Выхаваны на акадэмічным жывапісе, прыхільнік традыцыяналізму, А. Гараўскі працівіўся фармальнаму эксперыментатарству, не прымаў яго. Яго душа зусім не ляжала да ўсіх гэтых навацый. Таму, калі тэрмін камандзіроўкі нарэшце скончыўся, з радасцю развітаўся з замежжам. Па прыездзе ў Расію першае, што зрабіў, гэта паехаў на радзіму.

Уборкі... Сустрэча з імі акрыліла. Да ўсяго даведаўся, што жыве яшчэ тая сялянка, якая некалькі гадоў назад пазіравала яму, калі пісаў карціну "Старая моліцца". З радасцю накіраваўся да яе.

Жанчына не хавала здзіўлення. Яшчэ б! "Панічок" не забыўся пра яе. А ён: "Давай, маці, далей працаваць будзем!" Зноў рабіліся накіды, завяршалася тое, што яшчэ не было даведзена да дасканаласці. Хацелася верыць, што менавіта з гэтай карціны пачнецца ў яго мастакоўскай біяграфіі не проста новы, чарговы віток, а магчыма і этап, куды больш важны за папярэднія.

У 1861 годзе, прыехаўшы ў Пецярбург, А. Гараўскі прадставіў на акадэмічны савет дзве новыя карціны і дзевяноста эцюдаў, напісаных на радзіме. Работы гэтыя атрымалі самую высокую ацэнку. Найбольш членам савета прыйшлася даспадобы карціна "Старая моліцца". А. Гараўскаму прысвоілі званне акадэміка. Акадэмік, а за плячыма ўсяго дваццаць восем гадоў!

Гараўскі вярнуўся ва Уборкі, каб пражыць на радзіме амаль трыццаць гадоў. Праўда, зімой некалькі гадоў запар выязджаў у Пецярбург, выкладаў жывапіс у Вышэйшай мастацкай школе пры Акадэміі мастацтваў. Зрэдку наведваў сваякоў жонкі, якія жылі ў Пскоўскай губерні, бываў у сястры ў вёсцы Брадзец, шмат падарожнічаў па Беларусі. У Брадцы, яшчэ пры першым сваім наведванні, у 1860 годзе, напісаў А. Гараўскі і лепшы свой твор, у якім так пранікнёна адчувальны яго роздум аб Бацькаўшчыне —"На радзіме".

Увогуле, пейзаж быў любімым і асноўным жанрам А. Гараўскага. У розныя гады з'явіліся такія палотны, як "Вечар у Мінскай губерні", "Краявід з маёнтку Кушалева-Безбародкі Краснаполіца", "Пінскія балоты", "Рака Бярэзіна", "Свіслач" і іншыя.

...Неўпрыкметку да Апалінара Гілярыевіча падкралася старасць. Цяжка было з Беларусі збірацца ў дарогу, каб наведаць сяброў у Пецярбургу ці Маскве, таму Гараўскі вырашыў незаўсёды пасяліцца ў маёнтку Кірылавічы, а гэта было недзе ў ста сарака вёрстах ад сталіцы. І ў Пецярбург даволі лёгка дабірацца, ды і тамашняя прырода вельмі ж нагадвала беларускую. Бярозы, сасоннік, балаціны...

Позняй восенню, у самым перадзімку, любіў А. Гараўскі паблукаць па лесе, натрапіць на палянку, дзе птушкі не паспелі яшчэ абдзяўбці каліну. Нагінаў бліжэйшую галінку, не зрываючы, лавіў ягады вуснамі. Церпкі сок сутаргава зводзіў язык, ды Апалінар Гілярыевіч не зважаў на гэта, адкусваў ягаду за ягадай.

— Каліна — ягада гаючая, — усплывала ў памяці з напластавання гадоў.

Ад каго ён пачуў гэта ўпершыню, цяпер, як ні сіліўся, сказаць не мог. Магчыма, ад маці на самым-самым заранку свайго маленства, калі ўвесь навакольны свет здаваўся яшчэ такім агромністым і ўсё хацелася самому адкрыць і спазнаць? А мо гэта сказаў Іпаліт, ён жа на цэлых пяць гадоў старэйшы быў і любіў паказаць сябе перад братам дарослым? Хаця, бадай, гэтыя словы прамовіла тая самая сялянка? Яна, здаецца, тады доўга пазіравала, стамілася. Прызнацца, стаміўся і ён сам. Падышоў да паркана — справа была восенню, — адарваў некалькі ягад, кінуў у рот, скрывіўся...

— Еш, панічок, каліна — ягада гаючая, — сказала жанчына.

Каліна — ягада гаючая...

Не, не можа ён прыгадаць, ад каго ўпершыню пачуў гэта. Адно памятае, ніколі не забудзецца. Ва Уборках гэта было.

Апалінар Гілярыевіч прыхінуўся да ствала каліны, быццам шукаючы апору, якой яму ў гэты момант так неставала. Скупая мужчынская сляза скацілася спачатку з аднаго вока, а пасля — з другога.

Каліна — ягада гаючая...

Не стала А. Гараўскага ў 1900 годзе. Карціны ж яго захоўваюцца ў славутай Траццякоўцы ў Маскве, іншых музеях Масквы і Санкт-Пецярбурга, ёсць яны і ў Нацыянальнай мастацкай галерэі Рэспублікі Беларусь.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ПЕРШЫЯ КРОКІ МАЛАДОГА АБ'ЯДНАННЯ

# МЕНШ БЫ ЯМІНАЎ І КАЛДОБІН



**Магчыма, чытачы "Голасу Радзімы" памятаюць матэрыял Таццяны Антонавай " Горны зноў запалім і замесім гліну" за 10 кастрычніка 1991 года. У ім ішла размова пра мэты і перспектывы нядаўна створанага Таварыства майстроў народнай творчасці Беларусі, закліканага падтрымаць, захаваць, адрадзіць традыцыйнае народнае мастацтва і мастацкія промыслы, уключыць гэтую галіну нацыянальнай культуры ў сучасныя культурныя працэсы ў рэспубліцы, абараніць народных майстроў ад стыхіі рынку, паклапаціцца пра падрыхтоўку ім маладой змены...**

Што ж зроблена за гэты час?

Многае. Перш за ўсё – таварыства... больш няма. Але не будзем ставіць кропку. Справа ў тым, што вось хутка ўжо год, як на чарговай канферэнцыі яно было пераўтворана ў Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі. І гэта не проста фармальны акт. З першых жа дзён свайго жыцця таварыства актыўна ўключылася ў культурнае жыццё рэспублікі, выконваючы тыя ж задачы, што і прафесійныя творчыя Саюзы мастакоў, кампазітараў, архітэктараў, тэатральных дзеячаў. Дык чаму ж яму не стаць упоравень з імі і па назве? Не сакрэт, што ў звычайным разуменні паняцце "таварыства" нясе адценне нейкай другасортнасці.

На сённяшні дзень самае маладое творчае аб'яднанне рэспублікі ўжо займела пэўную вядомасць. Калі на першым часе трэба было весці значную прапагандысцкую работу сярод народных майстроў, аматараў арыгінальных відаў народнай творчасці, пераконваць іх у тым, што ў сённяшніх палітычных і эканамічных абставінах лягчэй трымацца разам, то сёння яны ідуць да нас самі. Многія вядомыя майстры "перабягаюць" з тых структур, дзе іх трымалі "ў чорным целе", бессаромна абіралі ці адносіліся да іх творчасці з нейкай паблажлівасцю. У сваім жа саюзе яны ўбачылі аб'яднанне раўнапраўных творцаў, заўсёды здольных належна ацаніць майстэрства кожнага, зычліва нешта параіць, а ў цяжкую хвіліну – па-чалавечы падтрымаць і дапамагчы. І гэта не проста словы. Саюзу яшчэ няма і года, на яго рахунку грошай як кот наплакаў, нават памяшкання пад "штаб" пакуль на займелі, а ўжо змаглі здабыць гліну і цэглу для ганчароў, ніткі для вязальшчыц і вышывальшчыц. Замежнаму чытачу такі "подзвіг" можа здацца анекдатычным, для нас жа гэта пакуль што сумная рэальнасць. Ды часам майстру дастаткова нават звычайнага цёплага слова, простай парады ці то ў жыццёвай сітуацыі, ці то ў пытаннях творчасці. Глядзіш – з новым натхненнем бярucца за разец або кручок, садзяцца за кросны ці ганчарны круг.

Праўда, клопаты саюза пакуль не сягнулі далёка за межы Мінска і яго наваколля. А самыя ж цікавыя, самабытныя і ў той жа час нярэдка безабаронныя, кінутыя без увагі і клопату народныя майстры жывуць якраз у глыбінцы. З Мінска да іх дацягнуцца няпроста, ды і нявapта гэта рабіць: эфектыўней працаваць з імі на месцах. Таму патрэбна ствараць абласныя, а з часам - і рэгіянальныя аддзяленні саюза. Работа ў гэтым напрамку ўжо вядзецца.

І нядаўна саюз заявіў пра сябе досыць прыкметнай справаю: у Цэнтры фальклору "Белая дача" адкрылася першая значная выстаўка твораў народных майстроў і аматараў народнай творчасці. Дзякуй Беларускаму інстытуту праблем культуры, з якім у саюза склаліся добрыя творчыя адносіны: ён прадаставіў гэты цудоўны будынак пад выстаўку, дапамог і яшчэ шмат чым.

Упрыгажэннем выстаўкі з'яўляюцца работы сталых, прызнаных майстроў, якія складаюць залаты фонд нашага саюза: кераміка С. Саўрыцкага, саламяныя вырабы А. Грэся, Н. Кузняцовай, В. Салдатавай, аплікацыя Л. Валеевай, В. Паўлавай, драўляная пластыка М. Корабава, А. Маголіна. На іх раўняюцца маладзейшыя, але ўжо адметныя майстры: С. Несцярэўскі з арыгінальнымі керамічнымі творамі, І. Алушкін, які точыць з бярозы-чачоткі, саломапляцельшчыца П. Зіміна, разьбяры Ю. Андрухін, В. Мазюк, У. Янкоўскі. Немагчыма не залюбавацца ювелірнымі вырабамі В. Трацяковай, якая творча перапрацоўвае даўнія і калісьці багатыя традыцыі гарадскога і манастырскага шыцця бісерам. Сакавітай дэкаратыўнасцю і гарманічным каларытам прыцягваюць увагу дываны І. Гардзеевай, сшытыя з абрэзкаў тэкстылю. Выстаўка сведчыць і пра неўміручасць народнай творчасці, і пра багацце талентаў нават у такім, на першы погляд, уніфікаваным асяроддзі, якім з'яўляецца буйны горад. А трэба ж улічыць, што з-за абмежаванасці плошчы выставіцца змаглі далёка не ўсе майстры з нашага саюза.

Нядаўна ў жыцці саюза адбылася яшчэ адна падзея: самае маладое творчае аб'яднанне прыняла ў свае рады Канфедэрацыя творчых саюзаў рэспублікі. Гэта прызнанне яго раўнапраўнасці з такімі сталымі і даўно вядомымі прафесійнымі аб'яднаннямі, як Саюз мастакоў, Саюз кампазітараў і інш.

Як відаць, Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі паціху, але ўпэўнена становіцца на ногі. Пажадаем яму менш ямінаў і калдобін на яго няпростым шляху ў нялёгкі для рэспублікі і яе культуры час.

**Яўген САХУТА,**
**старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы з выстаўкі: М. КОРАБАЎ "Успамін"; І. КУРВАНАЎ "Інтарсія"; В. ПАЎЛАВА "Дэкаратыўнае пано".**





# КАБ СТАЎ РОЎНЫ З УСІМІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

І хоць сягоння мала хто памятае гэтыя святочна-традыцыйныя звычаі, хоць не будуць разносіцца ў вячэрнюю ноч галасы валачобнікаў, хоць не ўсе яшчэ нашы святыні адбудаваны або адноўлены, хоць у нашых карзінах ці кошыках не будзе так шмат каўбас ці шынак, але ўсё адно бяры ты, нясі ты, ідзі ты з гэтым ахварбаваным яечкам і з лустай нашага "насушчнага" хлеба і соляй у найбліжэйшую святыню, дзе пачуеш словы: "Хрыстос уваскрос!" У гэту вялікую ноч страсі з сябе ўвесь бруд, катoрым абкідвалі цябе ад веку. Чыста абмыйся, прыбярыся ў лепшую вопратку, каб стаў ты роўны з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш словы: "Вялік святы нам дзень настаў, са славаю з гробу Ён устаў. Хрыстос уваскрос!.. Хрыстос уваскрос!.." Добра прыслухайся і задумайся. Якая вялікая сіла, які ўсёажыццяўляючы змест захаваны ў іх. Ты пачуеш у сваёй душы нейкую палёгку, надзею на лепшае заўтра, лепшую будучыню. Цябе гэта падбадзёрыць да большага змагання дабра над злом. У гэты святочны дзень ты моцна вер і радуйся, жыві надзеяй. Надзеяй свайго краю, свайго лёсу, якая, як жывучая вада, льецца ў тваю змучаную і збалелую душу. Ты і твой край ужо ўваскрэснулі ад доўгага сну, доўгага прыгнёту, гвалту, прымусу. Сонца вясенніх перамен ужо заглядае і ў тваё аконца, у тваё сэрца, дык ідзі ў гэты святочны дзень і маліся, каб яно не пагасла, а разгаралася большым полымем. Вер у гэта ажыўленне, вер у самога сябе, вер у Яго, бо, як бачыш, Хрыстос уваскрос! А над Ім таксама здзекаваліся, як і над табою. Яго білі па твары, сцябалі па плячах бізунамі. Плявалі на Яго, зневажалі і смяяліся з Яго. У канцы распялі і распятага не пераставалі мучыць. Ён памёр на крыжы паміж двух разбойнікаў. Але ўсё ж такі Хрыстос уваскрос! Крыж, на якім Хрыста распялі, які раней быў пагардай, сорамам, зрабіўся святыняй усяго хрысціянскага свету. І штогод у гэту вялікую ноч тысячы цэркваў, касцёлаў і іншых божых храмаў свецяцца аганькамі свечак. Чуецца радасны пераклік званоў. Крыж падымаецца над мільёнамі схіленых галоў, і ў паветры чуецца шэпт: "Хрыстос уваскрос!" Дык прыслухайся добра. Задумайся. Ці не віншуюць яны і нас з нашым уласным вялікім святам? Бо і нас катавалі, судзілі, над намі здзекаваліся, і мы цярпелі пагарду, няволю, прымус! Адабралі ад нас нашы святыні з іх багаццямі, адабралі ад нас нашу мову, культуру, звычаі. Але не змаглі адабраць ад нас веру ў Яго і Яго сілу. Веруючы ў Яго, мы верылі, што раней ці пазней уваскрэсне, як уваскрос Ісус Хрыстос, і наш край, і яго шматпакутны народ.

Хрыстос уваскрос!

**Алесь ГАТКОВІЧ.**
Англія.

НАРОДНЫЯ ЛЕКАРЫ

# ЧАРАДЗЕІ СЯРОД НАС

З дзяцінства калекцыяніpую выразкі з газет і часопісаў сенсацыйнага зместу. Ёсць тут расказы пра марскіх змей даўжынёй за сорак метраў, вялізных, чырвонага колеру кракадзілаў, знакамітую пачвару Лох-Нэсі. Большая ж колькасць друкаванак была прысвечана незвычайным здольнасцям чалавека: нехта зрабіў аперацыю без скальпеля, іншы малітвай, замовай падняў на паверхню з дна глыбокага возера тапельца... Паказваў я гэтыя выразкі вучоным, прасіў зрабіць нейкія каментарыі. Думкі былі розныя. Маю ўвагу часта засяроджвалі на месцы падзей: далёкая Індыя, Новая Зеландыя, краіны Афрыкі. Адным словам, за край свету ад нас. Дык ці не казкі, ці не выдумкі ўсё гэта? Праўда, не адмаўлялі, што нейкія з'явы, невытлумачальныя цуды могуць адбывацца і ў нас у рэспубліцы, напрыклад, на Гродзеншчыне. Называлі канкрэтных людзей – ведзьмароў, шаптух.

Многіх з іх ведаў і я. Сутыкаўся з імі не раз. Кожная такая сустрэча выклікала павагу, здзіўленне, часам была загадкай, не разгаданай і праз дзесяцігоддзі.

Вось некалькі прыкладаў.

... Мяне ўкусіў сабака. Рана на назе была невялікая, амаль нябачная. Але я моцна спалохаўся. І пасля дрэнна спаў, прапаў апетыт. Маці павяла да шаптухі Ульянкі Матруніч.

Той вечар я запамятаў да драбніц. У нізкай старэнькай хаце цьмяна гарыць газнічка. Над ёй бабуля Ульяна расплаўляе ў лыжцы волава, пасля вылівае ў місачку, якую трымае над галавой дзяўчынкі. Вымае з вады зацвярдзелае волава і ўважліва разглядае адбітак. І я чую голас шаптухі:

– Маладзіца! (так Ульянка называла нават маладых дзяўчат). Ты перажываеш вялікае гора, але цябе хутка чакае яшчэ адзін страшэнны ўдар...

У дзяўчынкі, па прозвішчу Сільвановіч, толькі што памерла маці. Смерць блізкага чалавека адмоўна адбілася на здароўі маёй сяброўкі.

Забягаючы наперад, адзначу, што шаптуха не памылілася: праз дзён дванаццаць трагічна гіне і бацька дзяўчынкі.

У той вечар не памылілася шаптуха, калі ставіла дыягназ і мне. Выліла ў міску з халоднай вадой расплаўленае волава, дастала праз некалькі секунд адбітак з выявай... сабакі. Дала выпіць (і з сабой) загаворанай вады. Я паправіўся.

... Ужо ў больш сталым узросце я касіў за Нёманам на балоцістай нізіне непадалёку ад лесу. Раптам паклікалі з суседняй дзялянкі і папрасілі дапамагчы аднесці хлопца Арэшку, якога ўкусіла змяя, да знахара. Дзяцюк ужо страціў прытомнасць, нага распухла.

Дарогу паказаў ляснік. Жыў стары ў глыбіні Налібоцкай пушчы, кіламетраў за сем ад нашага касовішча. Знахар быў дома. Сядзеў за сталом і піў малако. Не паспелі мы ўнесці пацярпеўшага ў хаціну, як пачулі:

– Што, гадзіна ўджаліла?

Стары загадаў пакласці Арэшку на лаву. А сам працягваў, як мне здалося, спакойна вячэраць, толькі яго позірк быў скіраваны на пацярпеўшага.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ЧАРАДЗЕІ СЯРОД НАС

[Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.].

**У Бярозаўскім раёне ў вёсцы Галавіцкія кожны ведае невялікі рублены дом на ўскраіне. І жыве тут... ведзьма. Так тут называюць В.Пунько. Пажылая жанчына. Глыбока зрэзаны маршчынамі твар і пільны, што пранікае ўглыб, погляд сведчаць аб яе вялікім жыццёвым вопыце і цвёрдасці характару. Як высветлілася, "ведзьмай" яе называюць злыя людзі, ды і то за вочы, а сама Вера Максімаўна лічыць сябе знахаркай.**

**Ці прапала малако ў каровы, ці не спіць і бясконца плача дзіця, ці адолела ветраная воспа або рожа, ці пакутуе чалавек ад перапуду ці ўкусу змяі — ідуць да Веры Максімаўны за дапамогай. Лечыць яна без лекаў, траў і іншага зелля, лечыць замовамі. Навучыў яе гэтаму мастацтву бацька, які быў вялікім аўтарытэтам сярод знахароў і народных лекараў.**

**Амаль пяцьдзесят гадоў Вера Максімаўна дапамагае людзям. Нацярпелася ад улад, якія праследавалі яе, абвінавачваючы ва ўсіх смяротных грахах, і толькі ў апошнія гады пакінулі ў спакоі. Таму і стараецца дамапагчы іншым. Можна верыць ці не верыць у дзейснасць слова "шаптухі", але калі некаму гэта дапамагае — то і дзякуй Богу.**

**На пытанне аб памерах узнагароджання за вылечванне Вера Максімаўна звычайна адказвае: "З чужой бяды грошай не бяру. А каму дапамагу — самі дзякуюць. Хто як можа".**



**НА ЗДЫМКУ: Вера ПУНЬКО — знахарка з вёскі Галавіцкія Бярозаўскага раёна.**

Прызнацца, у мяне ўнутры падняўся сапраўдны бунт. Хлопец памірае, а ён расселся за сталом і нічога не робіць. Ледзь не выкрыкнуў: дык лячы ж хутчэй!

Але вось стары падаў нам каманду:

— Зачарпніце вады і дайце яму напіцца.

Мы з цяжкасцю напаілі Арэшку звычайнай вадой.

І адбыўся цуд: дзяцюк расплюшчыў вочы. На ноч знахар пакінуў яго ў сябе. А раніцой Арэшка вярнуўся да нас, касцоў, зусім здаровым, знікла пухліна на назе.

— Чым лячыў цябе Сацэвіч (так звалі знахара)? — спыталі мы ў хлопца.

— Загадваў піць звычайную ваду з вядра, — адказаў ён.

Цуд ды й годзе! Жанчына беспамылкова прадказвае будучыню, гэты лечыць звычайнай вадой... Дзе тлумачэнні і разгадкі?!

Адны навукоўцы тлумачаць расказанае выпадковасцямі, іншыя — незвычайнай здольнасцю некаторых людзей шляхам перадачы сваёй энергіі "зараджаць" тую ж ваду. А большасць медыкаў схіляюцца да думкі, што ўсякія чарадзеі, шаптухі — шарлатаны.

— Яны, — сцвярджае загадчыца 1-й клінічнай бальніцы Мінска Ніна Пыж, — не могуць правільна паставіць дыягназ, вызначыць курс лячэння.

— Сляпая вера ў лекара-самавука, — лічыць дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута анкалогіі А. Машэўскі, — нярэдка каштуе хвораму жыцця.

Больш рэалістычных пазіцый, мне здаецца, прытрымліваліся цяпер нябожчык вядомы на Гродзеншчыне ўрач Сазонаў і яго калега з Навагрудчыны Ярашэвіч. Народных лекараў, лічылі яны, трэба шанаваць. Не адмятаць, а глыбока аналізаваць і вывучаць. Для прыкладу бралі выпадкі са сваёй шматгадовай практыкі.

— Жыхару з-пад Любчы, — расказваў некалі Сазонаў, — Мікалаю Карповічу "падкінула" хваробу маці: каб сына не забралі на вайну, яна нешта зрабіла з нагамі. І пасля сарака гадоў гэты селянін амаль не мог хадзіць. Мае лекі, лекі іншых дыпламаваных урачоў мала што давалі. І тады на сваю рызыку і страх (такое праследавалася раней), я параіў звярнуцца да адной жанчыны, якую звалі проста Машай. Была яна бежанкай з Расіі, займалася лячэннем. Кожны год сцены яе хаты былі ўвешаны засушанымі каранямі, кветкамі, пладамі лясных і балотных раслін.

Жанчына народнымі сродкамі паставіла Карповіча на ногі.

— Найбольшы след на Гродзеншчыне, — лічыць Ярашэвіч, — пакінуў сярод народных урачоў жыхар Нягневіч Іван Сакольнік. Асабліва славіўся ён хірургічнымі ведамі. Вывіхі, пераломы, лячыў граматна. Часам каб зажывіць пералом, скарыстоўваў замест гіпсу гліну, замест металічных шын — драўляныя лубкі. А яго знакамітая мазь зажыўляла незагойныя раны...

Я жыў побач з бежанкай Машай (у пяцідзесятыя гады яна паехала на радзіму). Недалёка, кіламетры са тры было і да Нягневіч. Хачу дадаць, што бежанка і лячыла, і вучыла дзяцей збіраць лекавыя расліны, як іх засушваць, калі выкарыстоўваць.

Рэцэпт жа Сакольнікавай мазі (так яе называлі ў народзе) страчаны назаўсёды. Лячэннем Сакольнік займаўся ў той час, калі народныя лекары падвяргаліся і ганенням, і праследаванням. Менавіта таму амаль не стала ў вёсках і гарадах нашай Гродзеншчыны ды і ўсёй Беларусі сапраўдных народных лекараў, якіх вельмі часта называюць чарадзеямі. Часам прыпісваюць гэтым людзям здольнасці не толькі лячыць, але і прыносіць шкоду: сурочыць, "звесці з розуму", адводзіць каханага ад каханай і г.д. Не будзем ставіцца катэгарычна адмоўна да такіх меркаванняў.

Аўтара гэтага матэрыялу могуць папракнуць: вось сцвярджае, што амаль зніклі на Беларусі народныя лекары, а як жа разумець тады экстрасэнсаў, колькасць якіх у нашых вёсках і гарадах расце так імкліва, быццам грыбы пасля дажджу.

Аддамо ім належнае. Сайкоў, Конанцаў, Конюхова, Фількевіч... — іх здольнасці і метады лячэння заслугоўваюць увагі.

А пакуль што скажам у заключэнне словамі вядомага ў Беларусі ўрача, прафесара Ціхана Панцюшэнкі: "Экстрасэнсам пад сілу лячэнне хворых з функцыянальным расстройствам, але не пры наяўнасці іншых хвароб, асабліва анкалагічных. У такім выпадку можна і пашкодзіць сабе".

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**Вясна ў Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ЖАДАНАЯ ВЯСНА

## ВЕЧАР-ВЕЧАРОК

Стаю на вясновым беразе Нёмана і гляджу на густыя занёманскія лозы, нібы чакаю чагосьці цікавага. Струмені вады пад ціхім небам рухаюцца павольна, павольна калышацца плынь.

Сонца схавалася за лесам, і цемень ціхутка прысядае на лозы. Хрушчы пачалі актыўна лятаць, ласкава-весела гусці і пералятаць з явара на ліпы і назад. Ветрык супакоіўся, нібы адпачывае пасля дзённай беганіны. Запанаваў духмяны надвячорак.

Як добра сцямнела, кажаны, адпачыўшы за дзень, павылятаалі з-пад стрэх і імкліва закружылі над маёю галавою.

Павольна выглянуў запознены месяц, зазірнуў у ваду: у загадкавай нёманскай плыні зіхацелі зоркі. На дне ракі заблішчэлі дробныя перамытыя каменьчыкі. У лозах зацёхкаў салавей, даўні жыхар гэтых мясцін. Начная прахалода лашчыла твар, водар маладога лісця напаўняў грудзі.

Адчуваўся нястомны бег жыцця.

**Яўген КРАМКО.**

*СПОРТ*

МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА. У Венгрыі завяршыўся першы адборачны этап да Кубка Еўропы. Каб папасці ў фінал, які пройдзе ў маі, трэба было ўвайсці ў лік шаснаццаці лепшых. З гэтай задачай паспяхова справіліся беларускі Ларыса Лук'яненка, Таццяна Агрызка і Яўгенія Паўліна.

ХАКЕЙ. На міжнародным турніры ў Санкт-Пецярбургу зборная Рэспублікі Беларусь заняла трэцяе месца, уступіўшы толькі камандам Швецыі і Фінляндыі.

ФУТБОЛ. Яшчэ больш павялічылі адрыў ад іншых каманд — удзельніц першынства Рэспублікі Беларусь мінскія дынамаўцы. На старце другога круга яны атрымалі дзве перамогі і адзін матч з маладзечанцамі звялі ўнічыю.

СКАЧКІ Ў ВАДУ. На розыгрышы Кубка Еўропы, які прайшоў у Аўстрыі, першыя два месцы занялі мінчане Андрэй Семянюк і Сяргей Ламаноўскі.

ПЛАВАННЕ. Украінскі горад Бравары прымаў удзельнікаў міжнароднага турніру "Дружба-93". Камандную перамогу тут атрымалі спартсмены Рэспублікі Беларусь, якія на 31 ачко апярэдзілі ўкраінцаў.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 606. Падпісана на друку 20.04.1993.